# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 10 (628) ГОД XIII 10 САКАВІКА 1968 г. ЦАНА 60 гр.

## БГКТ

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА

21 лютага пасяджэнне Прэзідыума ГП адбылося ў Гарадку, супольна з членамі мясцовага праўлення БГКТ. Сакратар праўлення аддзела Мікола Матэйчук паінфармаваў прысутных аб трэдыцыях Гарадка і ваколіцы, расказаў аб цяжкасцях у працы аддзела і аб тым, што ўжо цяпер робіцца ў напрамку культурна-асветнай працы. І так ужо існуе ў Гарадку харавая група пад кіраўніцтвам С. Копы. У школе існуе харавы калектыў і эстрадная група, у праграмах якіх шмат беларускіх песень. Арганізуецца драмгуртак пад кіраўніцтвам Міколы Пэтэльскага. Народны універсітэт, які існуе пры Гарадскім доме культуры імя Кастуся Каліноўскага, мае шмат беларускай праблематыкі. Найгоршай справай да гэтага часу было з абслугай вясковых гурткоў БГКТ і з дапамогай ім у разгортванні культурна-асветнай дзейнасці.

Каб прыйсці з дапамогай аддзелу Прэзідыум ГП пастанавіў прыняць штатнага працаўніка да гэтага аддзела, які штодзень займаўся б працай Беларускага таварыства ў Гарадоцкім раёне. Працаўніком гэтым з'яўляецца настаўніца Ларыса Матусік.

Пастаноўлена таксама прыняць штатнага працаўніка і ў Міхалоўскі аддзел. А будзе там працаваць Аляксандр Баршчэўскі.

На гэтым жа пасяджэнні Прэзідыум ГП прыняў і зацвердзіў даклад на пленарнае пасяджэнне, а таксама выслухаў справаздачу галоўнага бухгалтара аб выкананні бюджэту ў 1967 годзе.

### З НАГОДЫ 50-АЙ ГАДАВІНЫ

50-ую гадавіну Савецкай Арміі гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку (24-га лютага) адзначыў урачыстай вечарынай, у якой узялі ўдзел былыя салдаты — абаронцы Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі: Васіль Літвінчык і Каліstrат Хіліманюк. Даклад з нагоды гэтай гадавіны чытаў член праўлення Васіль Баршчэўскі. Выступіў таксама з прамоваю намеснік старшыні акруговага праўлення Саюза змагароў за свабоду і дэмакратыю Аляксандр Гусянцоў.

(мх)




Вера Вярба

## КАХАННЕ

Разарвецца нерва провад тонкі,
горла сцісне спазмаю адчай.
Мне б пражыць
яшчэ хвіліну толькі.
Сэрца маё,
пачакай!
Я цяпер
абкрадзена, як ліпка;
Белы холад
белых-белых шчок.
Сэрца маё — тоненькая скрыпка —
Меншае
за кулачок.
Берагла
ад радасці і гора,
Ды, відаць, не ўмею берагчы.
І памру я,
як узыдуць зоры,
Перапёлкай на чужым плячы.

(«Полымя», студзень, 1968)

## ПЛЕНУМ ГП БГКТ

**У нядзелю 10-га сакавіка адбудзецца ў Беластоку пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Пленум абмяркуе рэалізацыю пастаноў V-га з'езда БГКТ і пастановы дагэтуляшніх пленарных пасяджэнняў.**



**Оперная салістка Яніна Карчэўская шле прывітанні чытачам «Нівы» (Чытайце ў сярэдзіне нумара інфармацыю «На оперу»).**

## ЖАНЧЫНА Ў НАСТУПЛЕННІ

Так ужо павялося, што аб дасягненнях гаворыцца з выпадку свята. А калі ўжо мова аб жаночых дасягненнях, то і часу няма гаварыць аб гэтым у іншым часе. Усё наша жыццё кожны дзень, кожная галіна прасякнуты жаночымі заслугамі аж так, што сталася гэта штодзённым, незаўважальным. Таму свята жанчыны так важнае. Пры ім раптам успамінаем, што жанчына вартасны чалавек і мае свае заслугі, якімі трэба пахваліцца.

Перад святам жанчыны 8 сакавіком заўсёды жанчыны склікалі ў нас у Беластоку прэсавую канферэнцыю, на якой прадстаўлялі гадавыя вынікі дзейнасці жаночых арганізацый, каб аб іх з выпадку свята напісалі. У гэтым годзе не абышлося без такой жа прэс-канферэнцыі. Больш нават. Цяперашняя канферэнцыя была склікана Ваяводскім Камітэтам Фронта адзінства народа. Свята жанчыны атрымала такім чынам высокі ранг.

Аказалася, што і арганізацый жаночых ёсць у нас многа і працы яны робяць яшчэ больш, так у горадзе як і на вёсцы.

Якія ў нас маем жаночыя арганізацыі?

Ліга Жанчын, гурткі вясковых гаспадынь, жаночыя гурткі пры рознага роду кааператывах і прафсаюзах, рада дзяўчат пры Саюзе вясковай моладзі.

Усіх іх аб'ядноўвае Ваяводская рада жанчын пры Ваяводскім камітэце Фронта адзінства народа. Старшынёй Рады жанчын з'яўляецца Луцыя Дземянюк — педагог. Рада паўстала ў палове 1966 года і яе галоўныя заданні: дапамога жанчынам у іх дзейнасці, актывізацыя жанчын, апека над дзяцьмі, гігіенізацыя жыцця — справа вельмі важная асабліва на вёсцы, развіванне грамадска-палітычнай дзейнасці сярод жанчын. Рада падкрэслівае ролю і значэнне вясковых жанчын, якія дагэтуль не ўсе меры выкарысталі, каб стацца паўнапраўнымі членамі грамадскасці.

**Ліга жанчын** — яе дзейнасць ў горадзе і ўсё шырэй сярод непрацуючых гарадскіх жанчын. Конкурсы рознага роду, клубы — служаць адукацыі і адпачынку жанчыны. Ліга вядзе таксама спецыяльнае давучванне жанчын па праграме пачатковай школы. 17 парадняў юрыдычна-грамадскіх дае парады ў цяжкіх сямейных справах. Парадні такія ёсць у кожным павятовым горадзе і кожная жанчына з горада і вёскі можа тут атрымаць патрэбную раду. У парадняx Лігі жанчын працуе грамадска 205 спецыялістаў: юрысты, педагогі, псіхолагі, сацыёлагі, лекары. Самымі частымі парадамі з'яўляюцца сямейныя канфлікты з прычыны алкаголю, аліментаў, разводаў, выхаванне дзяцей.

**Прафсаюзы** — групы жанчын тут займаюцца здароўем жанчын у працы, памагаюць здабываць патрэбныя ў працы кваліфікацыі, лепшую працу і плату, аванс, вядуць апеку над дзяцьмі і г.д.

**Гурткі вясковых гаспадынь** — іх дзейнасць моцна звязана з прадукцыяй вёскі. Жанчына тут прычыняецца да ўзросту багацця вёскі, выдайнасці палёў і гадоўлі. У гадоўлі хатняй птушкі і цялят жанчыны з КГВ маюць вялікія заслугі. Але вясковыя жанчыны ўсё часцей вырываюцца ад цяжкай працы. У арганізацыі яны знаходзяць мажлівасць, каб паехаць на экскурсію, пабачыць свет. Жанчыны з КГВ у Аўгустове каля Бельска збіраюць грошы на экскурсію ў Варшаву, іншыя ўжо ездзілі. У гуртках яны вядуць розныя вучобы.

(Працяг на стар. 5)

Сустрэчы з землякамі

## У ПОШУКАХ БЕЛАРУСКАЙ ДУШЫ



На дваццатым паверсе Палаца культуры і навукі ў Варшаве памяшчаецца рабочы кабінет беларускай філалогіі. Гэта навукова-даследчая лабараторыя. З'яўляецца яна маленькім звяном Польскай акадэміі навук. Пад кіраўніцтвам праф. Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай некалькі маладых даследчыкаў адшукоўваюць і паясняюць усё, што было і што ёсць найбольш каштоўнае ў беларускай культуры на тэрыторыі Польшчы.

Сярод іх — невысокая, чарнявая пані мгр Мар'я Чурак.

Найперш быў гайнаўскі беларускі ліцэй.

Марыся Чурак жыла тады ў сваёй роднай вёсцы — у Дубічах Асочных. Бацькі ў яе ўжо не было. Памёр яшчэ тады, калі Марыся мела ўсяго 5 год, а маці часта хварэла.

Марыся штодзень 8 кіламетраў ездзіла веласіпедам у Гайнаўку. Вярталася дамоў і... не, не бралася адразу за кніжкі і ўрокі. Гэта адкладала на вечар. Найперш трэба было дапамагаць у хатніх працах.

Летам 1958 года Марыся Чурак атрымала атэстат сталасці. Паехала ў сталіцу вывучаць беларускую, родную мову. Прызналі ёй стыпендыю, атрымала харчавыя боны ў сталоўку, далі бясплатна месца ў інтэрнаце.

— З дому я амаль нічога не брала, — заяўляе мгр Мар'я Чурак. — На мае скромныя патрэбы хапала мне дзяржаўнага. Дапамогу дзяржавы адплачвала старанна навукай.

У 1960 годзе Навуковая рада Універсітэта прызнала Кафедры беларускай філалогіі 2 месцы для студэнтаў на навуку ў Савецкі Саюз. Так Марыся Чурак апынулася ў Мінску — у Беларускім дзяржаўным універсітэце імя Леніна і далей вывучала беларускую мову і літаратуру.

— З універсітэцкім дыпломам, — расказвае яна, — вярнулася я ў Варшаву ў 1963 годзе. Пасля кароткай стажыроўкі на Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта атрымала я пасаду ў Аддзяленні славяназнаўства Польскай акадэміі навук.

Гэта там, на дваццатым паверсе Палаца культуры і навукі. І тут пачаліся пані мгр Мар'і Чурак пошукі беларускай душы. Гэтая душа найбольш ярка праяўляецца ў народнай творчасці, у песнях, казках, апавяданнях, у народным гумары. Гэтыя сапраўдныя жамчужыны беларускай культуры высока цанілі многія вучоныя і пісьменнікі. Найбольш іх аднак сабраў выдатны этнограф Міхал Фэдароўскі. Прайшоў ён уздоўж і ўпоперак усю Заходнюю Беларусь. Запісаў дзесяткі тысяч песень, казак, анекдотаў і апавяданняў. Сабралася разам 7 тоўстых тамоў. Тры першыя выдаў ён сам, 4-ты выйшаў у 1935 годзе, наступныя — у нашыя дні. Над апошнім, 7-ым томам «Люду беларускага» Міхала Фэдароўскага прышлося папрацаваць нашай зямлячцы Мар'і Чурак з вёскі Дубічы Асочныя.

— Я проста закахалася ў Фэдароўскага, — гаворыць яна сама.

(Працяг на стар. 5)

**Актывісткам БГКТ, чытачкам «Нівы» і ўсім жанчынам з нагоды жаночага свята шлем самыя сардэчныя прывітанні і пажаданні плённай грамадскай працы і шчасця ў асабістым жыцці.**

**ГП БГКТ «Ніва»**

 




### САВА, АСЁЛ ДЫ СОНЦА
**Байка**

Сава лятала паначы,
З сабою птушкам смерць насіла,
Хаўтурны спеў ім пяючы, —
Сама там драла іх, сама ж і галасіла,
Ды так не ўбачыла, як нахапіўся дзень,
І Сонца яркага прамень
Дарэшты асляпіў ёй вочы.
Сава ўцячы тут хоча,
Ды толькі вось ляцець не можа,
А паблізу няма дупла нідзе.
Заплакала Сава ў бядзе —
Ну, хто ж Саве паможа?
На шчасце ёй тут лёс паслаў
Знаёмага Асла.
І кажа ёй: — Не плач, сястрыца,
Ды надта не бядуй, —
З бяды мы вырабімся самі,
І Сонцу нам не прыйдзецца скарыцца:
Я вушы доўгія на Сонца навяду
І засланю яго вушамі.
Як цемра ўсю пакрые галу,
Як згіне прыкрае святло,
Дык ты й ляці сабе ў дупло
Тады памалу.
І наш Асёл за працу ўзяўся шчыра:
Як можна вушы свае шырай
Ён растапырыў, распрастаў
І проці Сонца стаў.
Калі ж налева глянуў коса —
Святла там яркая палоса,
Ён — гоп у левы бок.
Пасля глядзіць — святло і справа:
Тады назад ён — скок.
Нарэшце бачыць — дрэнна справа:
Скакаў, скакаў і ўжо насілу ходзіць,
А Сонцу ўсё ніяк не шкодзіць, —
Ні каплі не памог Саве,
А вочы пасляпіў сабе.
І вось Аслу нарэшце ясна стала:
Каб Сонца засланіць — вушэй асліных мала.

---

Вось гэту праўду едкіх слоў
Нясу, абураны, я на фашысцкіх соў
І іх заступнікаў аслоў.

**Кандрат Крапіва**

1. Коратка перакажыце змест байкі.
2. Ахарактарызуйце вобразы байкі, вызначце адносіны аўтара да Савы і Асла.
3. Супраць каго аўтар накіроўвае моц сваёй сатыры?

**Біяграфічная даведка**

Кандрат Крапіва. — Вядомы драматург і байкапісец, народны пісьменнік Беларусі. Нарадзіўся ў 1896 годзе ў сялянскай сям'і. Пачаў друкавацца ў 1922 годзе. У байках, сатырычных вершах, навелах і апавяданнях ён выступаў супроць перажыткаў капіталізму ў свядомасці людзей, п'янства, хуліганства, невуцтва, несумленных адносін да працы.

СУЧАСНАЯ МІФАЛОГІЯ




Хацеў бы сесці каля акна, у нядзелю пасля абеду, і пачытаць каляровы часопіс з гожымі дзяўчатамі — варшаўянкамі. Або разлегчыся на мяккай сафе, купленай за 2.900 злотых, пачытаць пісьмы ад сяброў. І падумаць аб тым, што найвялікшай вартасцю на свеце з'яўляецца добрая памяць аднаго чалавека аб другім чалавеку.

Але ён не зробіць ні так, ні сяк.

А за акном нудная адліга.

— Ідзі есці!

Маці даўно адзвычаілася гаварыць. Крычыць нават тады, калі гаворыць аб прыемных рэчах.

Не падпускае жонкі да кухні. І стогне.

— Цяжка мне! — гэта не нараканне, гэта хвальба.

Гэтак крычыць яна пад канец абеду, калі ведае, што ён добра наеўся і не мае ахвоты да размоў. У пачатку абеду ён можа вызверыцца: маму, ціха, бо як дам у астатні пярэдні зуб!..

Бацька ні туды, ні сюды.

— Ну, маці, ша-а... Еш во, бульба стыне.

— Маму, дзе пісьмы?

У жонкі ўсё яшчэ падазроны позірк.

— Гэтыя паперкі? Папаліла!

— Чаму? — пытае голасам, які хоча зазлаваць і не можа зазлаваць. Проста, не хочацца. Забаўляецца роспытамі пры жонцы.

— А якая з іх карысць!

Паперы, якія шануе маці, гэта грошы: чырвоныя, зялёныя, сінія. Калі ён дастане выплату і аддае жонцы, а жонка ёй, матцы, яна гаворыць:

— Больш зарабляеш, чым Нікіфараў Федзя...

Альбо:

— Больш зарабляеш, чым Сцяпанаў Толік-абібок...

Або:

— Больш зарабляеш, чым Пратасава Нінка, каханка дырэктарава...

Тады гаворыць нармальна, не крычыць.

Калі маці гаворыць, бацька зусім маўчыць. Але гэтак бывае ўсяго адзін раз у месяц, у дзень выплаты.

Дастае ад маці дваццаць злотых на папяросы.

— Цьфу, на паскудства грошы аддаеш! — і дае тых дваццаць сінепапяровых.

А назаўтра:

— Зноў пад будкаю з півам стаяў!

Гэта наконт тых дваццаці злотых, іх павінна хапіць яму на цэлы тыдзень: штодзень па дзесятцы «спортаў» за 1,80 зл., а ў суботу купляе аж дзве дваццаткі «спортаў» за 7 злотых, каб накурыцца за нядзелю. І мо гасцей якіх чорт прыпрэ?

Ашчаджае, не п'е. Ведае: час добра адзявацца яму і жонцы. І гатовіцца да таго. Ведае: каб не маці, піў бы. І пусціў бы грошы. Ведае: калі ўрэшце накупіць чаго трэба, то і так пачне піць. Мо толькі здаецца, што ведае?

Ужо купіў тэлевізар. Маці адразу зразумела, што грошы вывалены ў балота, а бацька толькі цяпер.

Пасядзіць бацька перад тэлевізарам, даглядзіць фільм да канца ды кажа.

— І нашто гэта скрынка?

Памаўчаўшы дадае адно і тое:

— Ботаў добрых не маеш...

Такім чынам бацька выказвае сваю параду, каб ён купіў запасовую пару ботаў. Тэлевізар гэта: цацка, брыдкаголыя бабы і дурнота разумных людзей, на якую глядзіцца спадцішка. Часамі аж сорамна ў вочы нявестцы глянуць, паскудства! Найгорш, што бярэ цікавасць.

Учора ездзілі ў Беласток купляць футра за пяць тысяч, як у Пратасіхавай Нінкі. Не купілі, убачылі лепшае, ангельскае — таксама штучнае. За сем з паловаю. А мелі няцэлых шэсць. Купяць, як толькі дастане выплату, прадаўшчыцы сівой далі сотню за рызыку, каб прыхавала гэтае футра, бо хаваць тавар забаронена...

Ну, так. Ён выцер губы ад тлустай капусты, пайшоў у пакой паглядзець тэлевізара: не падабаецца, ёсць ужо лепшыя тэлевізары — з аўтаматычным рэгуляваннем. Ого!

Прыйшла жонка. У яе непатрэбныя вочы, яны пусцеюць.

Маці бы служанка бразгіча пасудаю ў кухні, каб паказаць, як моцна хочацца ёй, каб дзеці жылі ляпей.

**К. Янкоўскі**





## УЖО НЕ ДРАЎЛЯНАЯ

**Гайнаўка доўгі час была невялікаю асадаю і адміністрацыйна падлягала Бельскаму павету. Была яна, як многія нашыя падобныя асады, поўнасцю «драўляная». А калі дзе і былі мураваныя будынкі, дык іх можна было б палічыць на пальцах аднае рукі.**

**Калі Гайнаўка авансавала да рангу павятовага горада, а сталася гэта з пачаткам 1955 года, пачала яна хутка аднаўляцца. Пачалі расці прыгожыя мураваныя будынкі адміністрацыйныя і жыллёвыя. Асабліва ў апошніх некалькіх гадах набрала «тэмпу» новае будаўніцтва. Даволі не быць у Гайнаўцы адзін год, каб пераканацца, як хутка мяняюць выгляд паасобныя вуліцы. На вуліцы 1-га Мая зараз можна ўбачыць вялікія пяціпавярховыя будынкі.**

## ШКОЛЬНЫ АБАВЯЗАК

Па-рознаму бывае са свядомасцю нашых людзей. Цяжэй яе акрэсліць у справах складаных, дзе трэба дашукоўвацца многіх прычын. Аднак, калі рэч ідзе да свядомасці пацверджанай абавязкам, здавалася б, не павінна быць ніякіх клопатаў. Аказваецца ўсё ж, што яны ёсць.

Паводле нашых законаў школьным абавязкам ахоплены ўсе дзеці (апрача хворых) ад 7 да 17 год, г.зн. на толькі, каб малады чалавек мог закончыць мінімум 8 класаў пачатковай школы, неабходных яму ў сучасным жыцці. Здавалася б, што гэта справа на толькі зразумелая ўсім, што, каб мець свядомасць гэтага, трэба іменна мінімум яе.

Аказваецца, што не ўсюды так ёсць. Напрыклад, у **Бельскім** павеце на 12.989 дзяцей ахопленых школьным абавязкам у гэтым навучальным годзе аж **116 вучняў не пачало навукі ў школах.** І што характэрнае, у павеце ёсць некалькі такіх раёнаў, дзе бацькі абыякава адносяцца да абавязкаў пасылаць дзяцей у школу. Гэта перш за ўсё раён: Боцек, Бранска і Рудкі. Напрыклад, у пачатковай школе ў **Вярценю** не пачало навукі 10 вучняў, у **Нямыях — 9,** у **Войшках** — 13, **Бранску, Сабятыне, Кнаразах і Якубоўскіх** па 6 вучняў.

Безумоўна, гэта прымусіла школьную адміністрацыю налажыць штраф па **500 зл на 33 бацькоў,** а 10 накіравала ў карна-адміністрацыйную калегію. Можна толькі здзіўляцца, чаму так мала. Але не толькі ў тым справа. Гэтыя крокі применена як астатковыя. Справа не ў пакаранні, а ў тым, каб дзеці матлі закончыць хаця пачатковую школу.

І справа больш агульная, але вельмі істотнага характару, што калі гэтая з'ява выступае толькі ў пэўных раёнах павета, дык неабходна дашукоўвацца прычын агульных: не адпаведная праца школы, ГРН — камісіі асветы, культуры і сацыяльных спраў, арганізацыі і актыву. Іменна такія з'явы павінны быць алярмам усім гэтым установам. Стаўка вялікая — дабро будучага грамадзяніна-будаўніка.

(АК)

---




У вядомай кнігарні ў Беластоку пры вуліцы Кілінскага №10 можна купіць ўсе выданні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Кнігарня прымае пісьменныя заказы.

**Дзядзька Лявонь.** Зборнік фельетонаў папулярнага фельетаніста «Нівы».

**Белавежа**. Збор лепшых твораў нашых аўтараў, згуртаваных у літаратурна-мастацкім аб'яднанні «Белавежа».

**Жыццёвыя сцежкі.** Першы зборнік вершаў вядомага нашага паэта **«Віктара Шведа.** У зборніку розныя вершы: лірычныя, гумарыстычныя, дзіцячыя.

**Навуковы зборнік.** Першая кніжка прац Беларускага навуковага гуртка пры ГП БГКТ. Шмат цікавых звестак пра гістарычнае мінулае нашай зямлі.

**Беларускі каляндар на 1967 г.** Гэтае выданне асабліва рэкамендуем гурткам мастацкай самадзейнасці. Змешчаны ў ім п'есы нашых аўтараў, м. ін. даскалая п'еса **«Конская кніжка» Уладзіміра Паўлючука.**

З савецкіх выданняў кнігарня атрымала ў значнай колькасці наступныя кніжкі:

**Тэорыя літаратуры ў школе**. Аўтар — **М. Лазарук.** Гэта дапаможнік для вучняў сярэдніх школ — маем на ўвазе вучняў беларускіх сярэдніх школ у Бельску, Гайнаўцы і Міхалове.

**Лясныя казкі**. **Міхась Калачынскі**. Загаловак не патрабуе агаворкі. Гэта цікавая, каляровая кніжка для дзяцей.

(ся)

**Сядайце, едзем!**

## НА ОПЕРУ

Ад I/IV (красавіка) у Беластоку, у тэатры Вянгеркі будзе выступаць **Дзяржаўная аб'язная опера.** Прыязджае яна ў рамах нашай акцыі «Сядайце, едзем», якую вядзем разам з Агульнапольскай турыстычнай спулдзельняй «Грамада» — аддзел у Беластоку.

Адной з перадавых салістак оперы з'яўляецца ЯНІНА КАРЧЭЎСКАЯ, (здымак на стар. 1), якая спявае галоўную партыю ў оперы «Яўгені Анегін» — Чайкоўскага. Гэтая опера будзе ўпершыню ставіцца ў Беластоку.

**Сардэчна вітаем калектыў оперы ў Беластоку**. Заказы на прыезд на оперу прымаюць экспазітуры і аддзел «Грамады». Падаем адрасы:

Беласток, вул. Варшаўская, 38,
Сямяцічы — Пляц Вызвалення, 17.

---

## Беларускія дыялекты БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Перыядычнае выданне Польскай Акадэміі навук «Sprawozdania z prac naukowych Wydziału Nauk Społecznych» ад 1960 года змясціла артыкулы прысвечаныя беларускім гаворкам Беласточчыны: Станіслава Глінкі: Granica językowa i przykłady zróżnicowania fonetycznego gwar białoruskich Białostocczyzny, Эльжбеты Смулковай: Przykłady zróżnicowania morfologicznego gwar białoruskich Białostocczyzny і прафесар Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай: Stan prac naukowo-badawczych Pracowni Filologii Białoruskiej Zakładu Słowianoznawstwa PAN. Артыкулы Глінкі і Смулковай ілюструюцца картамі беларускіх дыялектаў Беласточчыны апрацаванымі на падставе дакладных доследаў, якія Інстытут Славяназнаўства Польскай Акадэміі навук правёў на Беласточчыне.

(п)



 

 

# НАРОДНАЯ КУЛЬТУРА І ВЕРАВЫЗНАННІ

Вядома, што 90 працэнтаў рэлігійнай абрадавасці як у праваслаўі, так і ў каталіцызме — гэта фальклор — засвоеная хрысціянствам народная вусная традыцыя. Фальклор гэты вельмі featureрознага паходжання. Частка народнай рэлігійнай абрадавасці — гэта мясцовы дахрысціянскі фальклор, большасць аднак, — у выпадку, скажам, славян — гэта фальклор розных іншых народаў засвоены хрысціянствам у ранні перыяд яго развіцця і наступна перанесены ім на славянскія землі.

Такое разрозненне існуе аднак толькі для даследчыка. Для народа не было розніцы паміж абрадамі вядомымі славянскім продкам на працягу цэлых тысячагоддзяў, а абрадамі засвоенымі пазней дзякуючы хрысціянству. І да адных і да другіх народ быў моцна прывязаны праз цэлыя стагоддзі, аж амаль да нашых часоў. Калі ж надышоў той час, што народная абрадавасць пачала раптам гінуць — гінула яна таксама ў роўнай ступені — і тая сапраўды народная і абнародаваная абрадавасць прынесеная на нашыя землі хрысціянствам.

Трэба сцвердзіць, што праваслаўе, а ў пэўнай меры і каталіцызм, ахвотна засвойвалі народную абрадавасць рознага паходжання і надаючы ёй рэнг святасці прычыняліся да яе трываласці.

Гэта цярпімасць царквы і ў пэўнай ступені каталіцкага касцёла ў адносінах да народнай культуры былі адной з прычын вострых выступленняў супраць царквы пратэстантызму.

Баптысты, адвентысты, розных толкаў евангелісты заўсёды атакавалі і надалей атакуюць царкву за тое, што рэлігія зводзіцца тут да знешняй абрадавасці, да бурлівых, п'яных фэстаў, да гаманлівых каледаванняў, упрыгожвання іконаў і г.д. Пратэстантызм, а асабліва навейшыя радыкальныя яго плыні, званыя часта рэлігійнымі сектамі — адкідаюць усялякую рэлігійную фальклорнасць, усялякую народную знешнюю абрадавасць. Паводле пратэстантаў адзінай падставай, на якой веруючы павінен абапіраць свае дзеянні, павінна быць святое пісанне, а не нейкая народная ці царкоўная традыцыя. Пратэстанты ўвялі суровы, не вядомы раней народнай культуры, стыль жыцця, там, дзе раней быў толькі абрад, прабавалі ўводзіць своеасаблівую логіку і рацыянальнае абгрунтаванне.

Розныя ўхілы пратэстантызму пачалі шырыцца на беларускіх вёсках Беласточчыны ў міжваенны перыяд — тады, калі народная традыцыя і народная традыцыйная набожнасць пачала перажываць свой заняпад. Рэлігійныя секты прычыняліся да далейшага яе заняпаду. Заняпад народнай абрадавасці і традыцыйных народных святасцей выклікаў вострую рэакцыю той часткі вясковага насельніцтва, якая была асабліва моцна прывязанай да рэлігійнай традыцыі. На гэтым грунце развіваўся своеасаблівы рэлігійны рух звязаны з постаццю Ільі Клімовіча з Грыбоўшчыны. Важакі гэтага руху лічылі праваслаўных святароў няздольнымі бараніць праваслаўнай традыцыі і самі, зусім па-свойму, прыняліся за гэтую справу. Такім чынам рэлігійны рух ільінцаў стае ў адной шарэнзе з тымі рознымі рэлігійна-кансерватыўнымі плынямі, якія ўзнікаюць на этнічным фоне тады, калі народныя формы рэлігійнага жыцця стаяць перад пагрозаю. У рускім народным жыцці такой праявай празмернай прывязанасці да мясцовых традыцыйных форм народнага культа было — «стараабрадчэства», у польскім каталіцызме — рух мар'явітаў, празмерна экспанаваўшых прыняты на каталіцкай вёсцы культ Марыі. У беларускіх вёсках такую ролю заўзятых абаронцаў традыцыі выконвалі прыхільнікі Ільі Клімовіча.

**Ул. Паўлючук**

# ВЫРАЎНОЎВАЮЧЫЯ КЛАСЫ Ў БЕЛАВЕЖЫ

Розныя ёсць прычыны, калі вучань не паспявае за рэалізацыяй праграмы ў даным класе. Паколькі такіх вучняў менш, проста засталіся яны паўтараць гэты ж самы клас. Каб максімальна дапамагчы гэтым дзецям, а нярэдка прымусіць іх да навукі, кіраўніцтва **пачатковай школы ў Белавежы** пастанавіла, як першая школа ў павеце, увесці **выраўноўваючыя класы.**

У гэтым годзе працуе тут VII выраўноўваючы клас. Вучні маюць тут павялічаную колькасць гадзін навукі, перш за ўсё з тых прадметаў, якія прыносяць вучням найбольш клопатаў. Трэба адзначыць, што паколькі гэта спецыфічны клас, кіраўніцтва школы накіравала сюды найбольш вопытных настаўнікаў.

Пасля першай чвэрці нічога асаблівага не было відаць. Паводзіны і ацэнкі вучняў зусім не сведчылі, што яны пад спецыяльнай апекай. Некаторыя пачалі нават сумнявацца ў тым, ці ўвогуле патрэбны выраўноўваючы клас. Аднак першае паўгоддзе паказала, што праца настаўнікаў пачала даваць пэўныя вынікі. Гэта сведчыць яшчэ раз аб тым, што на выніки дыдактычна-выхаваўчай працы трэба цярпліва і доўга чакаць.

Але ёсць праблема, якой ні Белавежа ні Гайнаўка не развяжа. Згодна з указаннямі асветных улад некаторыя вучні павінны быць даследваны псіхолагам-спецыялістам. Псіхалагічна-прафесіянальная парадня існуе ў Бельску і сюды мусяць ездзіць дзеці з усіх вёсак Гайнаўшчыны, а гэта каштуе многа здароўя, часу і грошай. Нам вядома, што ў хуткім часе такія парадні будуць арганізаваны ў кожным павятовым цэнтры, а ў сувязі з тым, **ці не варта было б, каб, напрыклад, закупіць у Гайнаўку адпаведныя прылады да доследаў і папрасіць бельскага псіхолага, каб ён у вызначаны дзень наведаў Гайнаўку?** Гэта было б карысна і дзецям і псіхолагу, а павет меў бы падрыхтаванае памяшканне на будучую парадню.

**А. К.**

СЛЕДАМ НАШЫХ ІНТЭРВЕНЦЫЙ

## Аптымістычна настроены

Нейкіх 2 месяцы назад крытыкавалі мы ў «Ніве» будаўляную хаўтуру спулдзельні ўслугова-вытворчай сельскагаспадарчых гурткоў у Нурцу, Сямяціцкага павета. Спулдзельня гэтая папартацку будуе базу для мілейчыцкага ГС-у. Нядаўна старшыня нурэцкай спулдзельні так званага «СУВ» Сцяпан Палюх прыслаў нам наступны адказ:

„W odpowiedzi na krytyczny artykół w Nr 50(615) w dniu 10 grudnia 1967 r. w sprawie rozwalenia ściany w magazynie zbożowym w Milejczycach wyjaśniam:

Na posiedzeniu Zarządu w dniu 30. X. 1967 r. powołana została komisja w sprawie ustalenia rozmiaru szkód i ustalenia winnego. Komisja ta nie doprowadziła swoich spraw do końca, ponieważ przewodniczący tej komisji Obywatel Kazbetuk Wiktor został zwolniony z pracy, a pozostali członkowie ustosunkowali się do tej sprawy zbyt optymistycznie.

Na wniosek Prezesa S. U. W. została zwołana w dniu 20 lutego 1968 roku nowa komisja, która ustaliła rozmiar szkód wynikłych z rozwalenia w/w ściany i wystąpiła z wnioskiem, aby wszystkimi tymi stratami obciążyć byłego Kierownika budowy Obywatela Omelianiuka Janusza".

Падпісаў старшыня нурэцкай «СУБ» — Сцяпан Палюх.

Ад сябе дадамо, што спадзяемся, што рабочыя гэтай спулдзельні ў будучыні будуць менш аптымістычна адносіцца да разваленых уласнымі рукамі сцен і да іншай будаўлянай хаўтуры.

Яўгеніі Славінскай 61 год. Жыве яна ў вёсцы Ліпіны, Сакольскага павета. Мае шасцігектаровую гаспадарку. Але больш ад зямлі цікавіць яе гандаль гарэлкай. У час вобыску, які 17 лютага г.г. правяла ў яе сакольская міліцыя, было знойдзена 5 літраў самагоначнага «першачку». Самагонку (11 літраў) кузніцкія міліцыянеры знайшлі таксама ў Чэслава Кравеля з вёскі Сачкоўцы.

Амаль 70-гадовая сялянка Антаніна Бартоль з вёскі Бярвіха ў Сакольскім павеце несла ад калодзежа вядро вады. У той момант вясковай вуліцай ехала таксоўка «Волга» Генрыка Анджэйчука з Беластока. Шафёр даў асцерагальны сігнал, ад якога бабуля спалохалася і папала пад таксоўку. У выніку таго зламала левую нагу. Падобны выпадак здарыўся на станцыі Нурэц, у Сямяціцкім павеце, дзе шафёр Чэслаў Кажанеўскі наехаў на 70-гадовага Юльяна Трыпуця з вёскі Крукоўшчына.




Януш Іваноўскі з Харошчы, якому 23 гады, па-п'янаму бутэлькай ударыў па галаве Хведара Ярончука з вёскі Панькі ў Беластоцкім павеце. Хулігана арыштавалі.

На чыгуначным пераездзе ў Беластоку на вуліцы Ставовай, трапіла пад колы вагона Яўгенія Ружа, у выніку чаго абрэзала ёй правую нагу. Цягнік, які пераязджаў вуліцу Ставовую, накіроўваўся на Беластоцкую фабрыку фанеры.

Пётр Кляпацкі з вёскі Краснэ ў Дуброўскім павеце параніў нажом сваіх аднавяскоўцаў: Т. Штукоўскага і Ю. Мячкоўскага. За падобнае злачынства Пётр Кляпацкі быў ужо тры разы пакараны. Хулігана арыштавалі.

Міхаіл Тарасевіч (60 год) з гаёўкі Палатка ў Беластоцкім павеце разам з другімі паляўнічымі выбраўся на паляванне на дзікаў. У лесе, калі выцягваў сваю дубальтоўку з санак, яна самачынна выстраліла і параніла яго ў правую руку.

**Асака**

## ПЕРАМОГА СПАРТСМЕНАЎ БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ

Як даведваемся, валейбольная каманда юньёрак беларускага ліцэя ў Гайнаўцы перамагла з лікам 3:2 агульнафавагызаваную каманду з Лапскага педліцэя ў час чэмпіянату Беластоцкага ваяводства сярэдніх школ.

Апекуном беларускай каманды з'яўляецца Мікалай Врублеўскі.

Трэцяе месца здабылі спартсмены малачарскага тэхнікума ў Беластоку. (ся)

## АМАТАРЫ З НОВАГА ВОСТРАВА

Моладзь Новага Вострава, што на Сакольшчыне, аб'ядналая ў гуртках Саюза вясковай моладзі і Беларускага таварыства, ужо даўно славіцца таленавітасцю сваіх членаў, якая праяўляецца ў мастацкай самадзейнасці. У 1963 годзе аматары з Новага Вострава на ваяводскім аглядзе драмгурткоў з беларускім рэпертуарам у Гайнаўцы здабылі другое месца ставячы п'есу У. Галубка «Суд». (У аглядзе прымала ўдзел 13-ць аматарскіх калектываў).

Цяпер новавостраўская моладзь падрыхтавала п'есу Алеся Барскага «Гарадскія госці» і нядаўна выступала з ёю ў Гуранах. Уражанні гледачоў з прадстаўлення вельмі добрыя. Як сцвярджаюць працаўнікі мясцовага прэзідыума ГРН — усе прысутныя захапляліся дасканалай ігрой самадзейнікаў. Асабліва высокі мастацкі ўзровень ігры паказалі: Міхась Булатэвіч у ролі бацькі і Янка Байгус у ролі непаўналетняга сына.

Брава новавостраўская моладзь! Варта вам аб'ехаць з гэтай пастаноўкай многія вёскі. Варта ўзяць прыклад з самадзейнікаў з вёскі Маліннікі (Бельскі павет), якія з адной п'есай у мінулым годзе выступалі 17 разоў.

(мх)

# РЭЗЕРВЫ ГАЙНАЎШЧЫНЫ

На лютаўскім пленуме ПК ПАРП у Гайнаўцы абмяркоўваліся заданні павятовай партарганізацыі ў рэалізацыі пастаноў IX Пленума ЦК. Вёў пасяджэнне сакратар ПК ПАРП Мікалай Самоцік. З дакладам выступіў сакратар ПК Рышард Дваракоўскі.

Нягледзячы на пастаяннае развіццё гайнаўскай сельскай гаспадаркі, — сказаў тав. Дваракоўскі, — нашыя дасягненні яшчэ малыя ў параўнанні з рэальнымі прадукцыйнымі магчымасцямі.

Існуюць яшчэ вялікія рэзервы як у прадукцыйнасці збожжа, так і ў жывёлагадоўлі, асабліва ў гаспадараванні зялёнымі ўгоддзямі. Велізарнае значэнне мае ўключэнне ў прадукцыю і рацыянальнае выкарыстоўванне дзяржаўнага фонду зямлі, а таксама эканамічна слабых гаспадарак.

IX Пленум ЦК паставіў перад сельскай гаспадаркай заданні, якія патрабуюць выкарыстання ўсіх рэзерваў з мэтай павышэння ўзраўню прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі. Першым этапам выканання гэтых заданняў было стварэнне спецыялістычных камісій, якія павінны былі ў кожнай вёсцы высветліць прычыны, стрымліваючы хуткі ўзрост прадукцыйнасці і прадставіць найбольш адпаведныя метады іх ліквідацыі. У склад усіх камісій увайшло 86 чалавек. Гэта былі спецыялісты, прадстаўнікі аддзела сельскай гаспадаркі і лясніцтва, ОСМ, ПЗГС-аў, ГС-аў, ПЗКР, а таксама адпаведных саюзаў. Кожнай грамадзе была прыдзелена камісія з чатырох чалавек. У працы камісіі дапамагалі грамадскі актыў, партыйныя дзеячы, члены ЗСЛь. а таксама перадавыя сяляне.

Праведзеная спецыялістамі сельскай гаспадаркі ацэнка гаспадарак ва ўсіх вёсках выказала, што каля 28% гаспадарак атрымлівае ўраджаі на 4—6 ц ніжэйшыя ад сярэдніх ураджаяў у павеце. Гэта гаспадаркі, дзе даюцца вельмі малыя колькасці мінеральных угнаенняў або не даюцца зусім. У значнай іх частцы не выменьваецца пасяўное зерне і не вядзецца барацьба са шкоднікамі і пустазеллем.

Побач з дыспрапорцыяй паміж асобнымі гаспадаркамі і вёскамі выступаюць таксама значныя дыспрапорцыі паміж грамадамі з аднолькавымі глебамі. Калі, напр., ураджай чатырох збожжавых культур на сялянскай гаспадарцы ў мінулым годзе ў грамадзе Старое Ляўкова склаў 16 ц/га, дык у грамадзе Нараўка — 14 ц/га, а ў Семяноўцы — 13 ц/га.

Якія галоўныя прычыны, стрымліваючыя развіццё гайнаўскай сельскай гаспадаркі паводле гэтых матэрыялаў?

Балячка №1 — гэта цераспалосіца і раздрабленне зямлі. Такое становішча існуе аж у 43 вёсках і 24 пасёлках, якія займаюць больш 25 тыс. гектараў, г. зн. чацвёртая частка ўсіх сельскагаспадарчых угоддзяў у павеце. Нярэдка селянін мае зямлю ў 10—20 кавалках. Цераспалосіца не дазваляе ўводзіць у шырэйшым маштабе механізацыю, кантрактацыю насення і навейшыя метады аховы раслін.

Другая балячка — гэта запушчаныя гаспадаркі, якія не даюць ніякай надзеі на хуткі ўзрост прадукцыйнасці. Цяпер у павеце ёсць шмат гаспадарак, гаспадары якіх маюць больш 60 гадоў.

Не зусім добра выглядае справа з мінеральным угнаеннем і вапнаваннем. У мінулым гаспадарчым годзе ў маштабе павета сярэдні паказнік угнаення склаў толькі 33,6 кг NPK на гектар, а аж 12 грамад мела паказнік ніжэй сярэдняга. Напр., у Нарве далі толькі 20 кг NPK на гектар, а ў грамадах Палічна, Клеенікі і Семяноўка — менш 23 кг. І няма нічога дзіўнага ў тым, што ўраджай чатырох збожжавых культур у Гайнаўскім павеце далёка не сенсацыйны.

Планы па насенню ў мінулым гаспадарчым годзе былі выкананы толькі ў 50%. Недастатковая ахова раслін. Запраўленым зернем было засеяна толькі 28% збожжа. Мала яшчэ сеецца сеўнікамі. У павеце не хапае яшчэ каля 260 сеўнікаў, але і існуючыя не заўсёды поўнасцю выкарыстоўваюцца. Неабходна палепшыць і гаспадараванне лугамі і пашамі, якія складаюць у Гайнаўскім павеце больш 32% угоддзяў, але яшчэ не выкарыстоўваюцца як трэба. 20% сялян наогул не займаюцца доглядам зялёных угоддзяў, а 13% нават не пільнуе меліярацыйных равоў.

Нялёгкія планы накрэслены на бліжэйшыя гады, аднак рэальныя, магчы-



 

